# ЭКЗАМЭН НА ПАЛІТЫЧНУЮ СЬПЕЛАСЬЦЬ

21-га сьнежня 1943 году загадам генэральнага камісара Беларусі, групэнфюрэра СС фон Готтбэрга, у Менску пакліка्ны да працы кіраўнічы орган беларускага народу, Беларуская Цэнтральная Рада, якой нададзены гаспадарска-палітычныя і культурна-асьветныя функцыі. На чале Беларускай Цэнтральнай Рады, у якасьці прэзыдэнта яе, стануў ведамы беларускі дзеяч, колішні дырэктар Віленскае беларускае гімназіі, спадар Радаслаў Астроўскі. Надзвычайная палітычнае важнасьці гэтая падзея выклікала вялікае задаваленьне і уздойм ува усіх колах беларускага жыхарства.

Лепшыя сыны беларускага народу ужо 26 гадоў таму урачыста абвесьцілі на Усебеларускім Кангрэсе 18-31 сьнежня 1917 году жаданьне беларускага грамадзтва свайімі уласнымі сіламі пабудаваць сваё нацыянальнае жыцьцё, але тады яны адразу-ж наткнуліся на войстрыя перашкоды з боку трох адвечных ворагаў і эксплёататараў Беларусі. Першымі выступілі супроць беларусаў расейскія шавіністыя і чыноўніцтва, якія пайшлі адным імпэрыялістычна-прыгнятальніцкім фронтам з бальшавіцкімі камісарамі супроць Усебеларускага Кангрэсу і збройнай сілай разагналі яго. Затым выступілі супроць беларусаў польскія паны, якія захапілі Заходнюю Беларусь і пачалі тутака праводзіць шалёнае апалячваньне і гвалтаваньне беларускага жыхарства. Трэйці шматвяковы вораг Беларусі — жыдоўская плютакратыя і гандляры хітра дапамагалі і расейскім шавіністым, і польскім панам, і бальшавіцкім чакістым нішчыць беларускую інтэлігенцыю і сьведамых работнікаў ды сялян, каб яшчэ глыбей і мацней захапіць беларускі народ у ланцугі жыдоўскае эканамічнае эксплёатацыі і апанаваць кіраваньне духовым жыцьцём беларускага народу.

Чвэрць стагодзьдзя нацыянальная беларуская інтэлігенцыя і нацыянальна-усьведамленае беларускае сялянства і работніцтва, нясучы цяжкія кары у польскіх катаржных турмах і чакісцкіх канцэнтрацыйных лягерах, бязупынна змагаліся за лепшую будучыню беларускага народу, стараючыся далей усьведамляць народныя масы і гуртаваць усе жывыя сілы беларускага народу, каб у вадпаведны мамэнт зноў высака узьняць сьцяг беларускага адраджэньня. У гэтым сваім 25-гадовым змаганьні беларуская грамадзкасьць моцна верыла, што пры першым-жа вайсковым канфлікце на Усходзе Эўропы беларускі народ атрымае, нарэшце, магчымасьць скінуць з сябе расейскую і польскую навалу ды здолее вызваліцца з-пад жыдоўскае эканамічнае гегемоніі і уціску.

У чырвені 1941-га году надзеі беларускага грамадзтва зьдзейсьніліся. Сьледам за разгромам Польшчы наступіў і разгром СССР. Беларусы пазбавіліся ня толькі ад польскае панскае адміністрацыі і чакістаўскае сваволі, але адначасна сталіся вольнымі і ад жыдоўскага эканамічнага і духовага уціску. Калі-б гэтае дзіўнае вызваленьне адбылося без спаленьня і разбурэньня беларускіх гарадоў і мястэчак, бяз цяжкіх эканамічных стратаў і чалавечых ахвяраў, дык здарэньні 1941-га году былі-б запраўдным нечаканым цудам, і на Беларусі, як у байцы, адразу паўстаў-бы запраўдны залаты век.

Аднак, рэальнае жыцьцё непадобнае да баяк. Сваё вызваленьне з-пад расейска-польска-жыдоўскага панаваньня Беларусь атрымала у зараве пажараў, пры стрэлах гарматаў і узрывах бомбаў, якія ірвалі на кавалкі і вызваленцаў, жаўнераў нямецкае арміі, што адважна рухаліся наперад, і мірных жыхароў Беларусі. Новую балонку сваёй гісторыі беларускі народ мусіў распачаць на сьмярдзючых гарай і дымам папялішчах.

У вадзін дзень і у вадзін год ня можна было адбудаваць разбуранага. Кажны беларус разумеў і разумее, што патрэбны будуць гады упартае працы. І беларусы, пры спагаднай дапамозе нямецкага цывільнага кіраўніцтва, адразу-ж узяліся за гэтую вялікую працу. Трэба было аднаўляць ня толькі спаленыя фабрыкі, заводы і гарады, але і разбуранае духовае і грамадзкае жыцьцё. Маштаб і задачы працы былі вялізарныя.

Нашыя суседзі — латышы, ліцьвіны і эстонцы, якія у вапошнія 25 год ня былі разарваныя чужацкай уладай на часткі і якія мелі менш матар'яльных стратаў і чалавечых ахвяраў падчас падзеяў 1941-га году, ды, што самае галоўнае, ня згубілі сваіх адміністрацыйна-урадавых нацыянальных кадраў, — здолелі хутчэй за нас наладзіць нармальнае жыцьцё на сваіх жыцьцёвых абшарах. Беларусам давялося распачынаць сваю аднаўленчую працу ад самага пачатку, ад закладзінаў фундамантаў пад новым гмахам свайго нацыянальнага дому.

Два першыя гады працы не заўсёды і не ува усіх кірунках ішлі належнымі тэмпамі. Давялося перамагаць цэлы шэраг розных перашкодаў: тэхнічных, псыхалёгічных, адміністрацыйных і іншых. Але напачатку трэйцяга году ужо выразна вырысоўваюцца контуры будучага беларускага нацыянальнага дому, далейшае плянаваньне будаваньне якога загадам спадара генэральнага камісара у Менску даверана цяпер Беларускай Цэнтральнай Радзе. Ад самых беларусаў залежаць цяперака тыя тэмпы, у якіх праца пойдзе далей. І беларускі народ і ягоныя павадыры павінны ува усёй гістарычнай глыбіні эразумець заключныя словы прамовы генэральнага камісара Беларусі, генэрала фон Готтбэрга, які, зьвяртаючыся да сабраных у Менску 21-га сьнежня 1943 году прадстаўнікоў беларускага народу, сказаў ім:

«Скарыстайце дадзеную Вам магчымасьць! Адбудоўвайце Вашую Бацькаўшчыну, якая гэтак жахліва зьнішчана бальшавікамі. Кажны народ стане на тое мейсца, якое ён для сябе дастане праз свае сілы, праз сваю старанныясьць.»

Гэтыя словы і увесь акт 21-га сьнежня паказваюць нам, што беларускі народ трымае сяньня адказны экзамэн на палітычную і нацыянальную сьпеласьць. І гэты гістарычны экзамэн мы можам і павінны шчасьляхова вытрымаць!

*М. Зінук.*




**Газэта „Слонімскі Кур'ер"**

*У змаганьні за волю беларускага народу, беларуская прэса набыла новага камрата. У пачатку бягучага 1944 году у Слоніме пачала выходзіць новая тыднёвая газэта пад назовам «Слонімскі Кур'ер». За выдаўца — Прэсавае Выдавецтва Менск, за галоўнага рэдактара — д-р Войтэнка.*
*З радасьцяй вітаючы новага сябру у змаганьні над нашымі ворагамі, жадаем найлепшых посьпехаў.*

**Новая праца беларускага хірурга**

*Др. мэдыцыны сп. Наумін (Баранавічы) рыхтуе да друку працу аб сваёй новай мэтодзе перасаджваньня мачаводаў і аб заўважаных зьначаньнях у фізыялёгічных функцыях апэраваных жанчынаў. Гэтая цяжкая апэрацыя дагэтуль рэдка давала пажаданыя вынікі: бальшыня апэраваных памірала. Дзякуючы сваёй мэтодзе, д-ру Науміну пашчасьціла дасягнуць вельмі добрых вынікаў; усе 6 апэраваных выпадкаў закончыліся памысна.*

**Літаратурны часапіс**

*Паводля атрыманых намі вестак, у Менску неўзабаве пачне выдавацца новы літаратурны часапіс. Ужо рыхтуецца да друку першы нумар гэтага часапісу.*

**Новая паэма**

*Беларускі паэта Лявон Случчанін напісаў новую паэму «Рагнеда». Паэма надрукавана у 4 (222) нумары «Беларускае Газэты».*
*У яркіх мастацкіх вобразах паэта малюе слаўнае мінулае нашае бацькаўшчыны, магуту Княства Полацкага, ягонае змаганьне з ворагам. Паэма напісаная жывой і сакавітай мовай, прасякнутая гарачым патрыятызмам да бацькаўшчыны. Яе з упэўненасьцяй можна уважаць за вялікае дасягненьне аўтара.*

**„Філязафічныя разважаньні"**

*Пад гэткім загалоўкам віленская газэта «Беларускі Голас» пачала друкаваньне цыклю артыкулаў Г. Радзівіловіча на філязафічныя тэмы. У гэтых артыкулах з філязафічнага пункту гледжаньня разглядаюцца пытаньні праяваў беларускага жыцьця. Гэта — добры пачын «Беларускага Голасу», бо на балонках нашага друку да апошняга часу пытаньні філязофіі праяваў беларускага жыцьця закраналіся даволі мала.*

---

*На вокладцы: Зімовы краявід.*

---

*Выдавецтва часапісу «Новы Шлях»: Менск, вул. Рагнеды 2, тэл. 21300. Галоўны рэдактар У. Сядура.*



Беларускага селяніна не палохаюць зімовыя халады. Ён перамагае іх, — і ні на адну часіну ня спыняецца ягоная праца на карысьць сваёй гаспадаркі і дзяржавы.

# З фото-камэрай

*На абтоку Корфу. Цяжкія кулямёты устаноўленыя на узьберажжы.*



Зьлева унізе: Бітвы на усходзе. Карцечныя патроны скіроўваюцца да мейсца прызначэньня.

Унізе: Марскі афіцэр сувязі, з дапамогаю моцнага біноклю, устанаўляе тып і лік вадаплаваў, што праяжджаюць. Служба гэта вельмі адказная.









*Уверсе:* Ваенная служба пры дзяржаўным працоўным абавязку. Зьмена дазорцы. Пацікавіўшыся апошнімі падзеямі, зьменены дазорца на лодцы вяртаецца пазьней у свой аддзел.

*Зьлева:* Закладзіны фундаманту міністэрства авіяцыі у Мадрыдзе у прысутнасьці міністра авіяцыі генэрала Вігона.



Генэралфэльдмаршал Ромэль на узьбярэжжы каналу аглядае новыя умацаваньні.






Трэба меркаваць, што прасьці воўну людзі навучыліся у даўнія часы і значна раней, як ткаць лён. Але і для ужытку воўны трэ' было прайсьці даўгі і цяжкі шлях. Авечкі са сваёй багатай і пышнай аўчынай зьяўляюцца вынікам тысячагадовага прыроднага адбору і дбайнага расплоду пароды. Дзікія бараны, праўда, воўну мелі, але гэта было рэдкае шкумацьцё, што вельмі хутка вылазіла і пачварыла гэныя першабытныя істоты гэтак, што у іх цяжка было-б пазнаць паэтычны вобраз залатога руна.

Чалавек пачаў асвойваць авечак ня дзеля іхнай воўны, але дзеля мяса, сала, малака і сыру. Авечы сыр успамінаецца ужо у творах Гомэра і да сяньняшняга дня захаваўся на Каўказе (брынза) і у ісляндзкіх рыбакоў. У старадаўнім Эгіпце авечкі выконвалі тую працу, якую валы выконваюць і да сяньняшняга дня на рысавых палёх Філіпінскіх абтокаў — яны пасьля разьліву Нілу мусілі утоптваць у глебу пасеянае зерне.

Ваўняная вопратка зьяўляецца ужо у біблійскія часы, і яе мы спатыкаем на зары культуры усяго сучаснага чалавецтва.

У Эўропе, праўду кажучы, за расплод авечак узяліся даволі позна. Распладжвалі іх у Гішпаніі і Італіі у XIV стагодзьдзі. Дарэчы, асабліва славіліся гішпанскія авечкі пароды мярынос, прывезеныя арабамі з узьбярэжжа Паўночнае Афрыкі. Гэтым-жа часам, а магчыма яшчэ і раней, зачынаецца гадоўля авечак і у Італіі і робіцца тут галоўнай галіною занятнаў сярэднявечча. Разам з шаўкамі воўна стварае сьветную славу Флёрэнцыі і іншым італьянскім гарадом. Як высака цанілася і ставілася ткацкае рамяство і мастацтва сьцьвярджае той факт, што Мікэль Анджэлё, аддадзены бацькамі у навучаньне ткацкаму рамяству, мусіў пасьля свой занятак у малярсьцьве прыкрываць гэтым рамяством, бо бацькі ягоныя угледжвалі у занятках бясплодным «мастацтвам» нешта тое, што ганьбіла славутае племя графоў Каноса, з якога паходзіў вялікі мастак. Але высокае і ганаровае ткальнае рамяство ня сутуніла бліску ягонае графскае кароны.

Гішпанія тым часам займалася больш вывазам воўны, а менш — апрацоўкай яе. Дзеля таго, што воўна была галоўнай крыніцай дабрабыту краіны, дык да 1760 году вываз мярыносаў з Гішпаніі быў забаронены. Ня быў гэтай забароне падпарадкаваны толькі кароль. А таму здарылася, што у 1723 годзе адзін швэд, у выніку асаблівае ласкі, атрымаў ад Філіпа V дазвол вывезьці у Швэдыю невялікі гурт мярыносаў. Гэты факт зрабіў пралом у гэтак моцную сьцяну гішпанскай манаполіі. Аднак, хуткае распаўсюджаньне мярыносаў у Эўропе трэба аднесьці да часу адмены забароны вывазу гэтых авечак з Гішпаніі. Пасьля Швэдыі яны насамперш трапілі у Нямеччыну, адылі у Францыю і Ангельшчыну. У Ангельшчыну гэтая парода авечак была прывезеная у 1791 годзе, калі Ангельшчына у вырабе ваўнянае мануфактуры уважалася за першую краіну у сьвеце і калі гаварылі, што «увесь дабрабыт Ангельшчыны пабудаваны на воўне». Гэта і адпавядала тады запраўднасьці. На загад Карла I лёрдканцлер мусіў праводзіць паседжаньне палаты лёрдаў, седзячы на мяшку воўны, што сымбалізавала магуту Ангельшчыны.

Ангельцы вельмі хутка завялі у сябе мярыносаў і клапатлівым адборам і скрыжаваньнямі атрымалі цудоўныя пароды.

З адкрыцьцём Амэрыкі туды у другой палове XVI-га стагодзьдзя былі завезеныя і авечкі, якія добра звыкліся з тамтэйшым клiматам у Ля-Пляце, Пэру, адылі праз Мэксыку трапілі і у Паўночную Амэрыку.

Першыя галяндзкія перасяленцы наткнуліся на авечак і у Паўдзённай Афрыцы, якая была цудоўным мейсцам гадоўлі авечак. Гэта вынайшоў шатляндэц, што быў на службе у бурскай арміі, палкоўнік Гардон. Ён у 1780 годзе прывёз сюды мярыносаў і ягоныя гурты разрасьліся да фантастычных памераў. Але дабрабыт і шчасьце ягонае былі ня доўгавечныя, буры западозрылі яго у шпіянажы, і ён загінуў. Гурты-ж ягоныя распаліся і распаўсюдзіліся на шырокай прасторы. Праз пяцьдзясят год Паўдзённая Афрыка была ужо краінай мярыносаў і цяпер у паўдзённа-афрыканскіх стэпах пасецца больш 50 мільёнаў авечак.

Ангельскі лейтэнант Мак-Артур, таксама шатляндэц, узяўся за гадоўлю авечак у Аўстраліі, дзе умовы для гэтага былі ня горшыя, як у Паўдзённай Афрыцы, бадай яшчэ нават лепшыя. Лейтэнант Мак-Артур быў за тыпічнага прадстаўніка ангельскай калёнізацыйнай арміі, афіцэры яго займаліся пераважна гандлем. Тым часам паўдзённа-афрыканскія буры забясьпечвалі калёнізацыйныя войскі у Аўстраліі емінай. Адна экспэдыцыя атрымала ад Мак-Артура загад прывезьці адгэнуль авечак лепшай пароды. На шчасьлівы выпадак, вадаплаў гэтай экспэдыцыі трапіў у Паўдзённую Афрыку праз год пасьля пагібелі Гардона, калі гурты ягоныя яшчэ распрадаваліся. Гэтак Мак-Артуру пашчасьціла атрымаць найлепшых авечак. Мак-Артур пасьля пакінуў армію. Гэта яму, як гандляру, пайшло толькі на карысьць. Ён набыў 4000 гектараў зямлі, што яму амаль нічога не каштавала, і заклаў буйную фэрму гадоўлі авечак. Пасьля авечкі трапілі і у Новую Зэляндыю.

У 60 гадох XIX стагодзьдзя адзначаўся вылучны росквіт ваўнянай прамысловасьці. Эўропа ужывала найвялікшую колькасьць воўны, але гадоўля авечак пачала занепадаць. Гэтая зьява заўважалася ува усіх прамысловых краінах.

Нямеччына у 1860 годзе мела у сваім распараджаньні 28 мільёнаў авечак. У 1900 годзе налічвалася толькі адна трацiна гэтага, а да сусьветнай вайны усяго толькі 5 мільёнаў. Пасьля вайны пагалоўе крыху павялічылася, але распладжаліся авечкі пераважна для мяса.

Гэткая зьява назіралася і у іншых краінах. Нават у Ангельшчыне і Расеі гадоў-

---

*Масей Сяднёў*

## ДЗЯЦІНСТВА

*Што калісь жыло і што пела —*
*яшчэ раз ты, памяць, крані!*
*Прайшлі, як дажджы адзьвінелі*
*дзяцінства глыбокія дні.*

*Прайшлі над маёй галавою,*
*як сонца ідзе па вясьне.*
*І толькі іскрой залатою*
*вы ў снах мільгніцё без мяне.*

*О, дуб, на сівым, на кургане,*
*І сосны адвечных палян!*
*Я помню, у вас закаханы,*
*ад радасьці буйнай быў п'ян.*

*О, дзень мой, дагледжаны дзедам,*
*былое вярнуцца прымусь.*
*Усё, што узнаў я, што зьведаў,*
*завецца цяпер Беларусь...*

*Я мог весяліцца і плакаць...*
*Ўзьвіхрыся, мой горды скакун!*
*За рэчку на сочную мякаць*
*я зноў паганю мой табун.*

*У поле, у пушчы, увысь я*
*начным засьвішчу салаўём.*
*Нявіннасьць! Нявіннасьць! — вярніся,*
*вярніся дзяцінства маё!*

*Алесь Салавей*

## АПЭЛЕС І МАКЕДОНСКІ

*Вялікі мастак Апэлёс —*
*Высокая слава мінулых часоў,*
*Даўнейшае Грэцыі гонар —*
*Аднойчы паднёс Македонскаму свой*
*Малюнак. Там быў валадар на кані.*
*— Няважны малюнак, —*
*Сказаў валадар.*
*Такое «пахвалы» мастак не чакаў.*
*Да працы цудоўнай падведзены конь*
*Зайржаў гэтак гучна і моцна,*
*Што слаўны мастак не сьцярпеў, адказаў:*
*— Твой конь разумее мастацтва ляпей,*
*Як ты, валадар мой магутны!*
*1943 г.*

ля авечак, хоць і нязначна, але зьменшылася.

У 60-х гадох ува усёй Эўропе налічвалася мала ня 200 мільлёнаў авечак, перадусім на паўдзённую паўкулю зямлі прыпадала ня больш паловы гэтае лічбы.

Цяпер у Эўропе, улучаючы СССР, каля 150 мільлёнаў авечак, тым часам, калі на прастору паўдзённае паўкулі прыпадае 280 мільлёнаў. Найгалоўнымі краінамі гадоўлі авечак зьяўляюцца: паўдзённая Амэрыка, Аўстралія, Новая Зэляндыя і Паўдзённая Афрыка.

Але колькасьць яшчэ не азначае развою гадоўлі авечак. Галоўнае — гэта пытаньне: колькі воўны дае адна авечка. Прыкладам, у Эўропе бяз СССР — мала ня 100 мільлёнаў авечак, а у Акіяніі прыблізна 150 мільлёнаў, г. зн. на 50 проц. больш, як у Эўропе, аднак, воўны тут атрымліваюць у два разы больш, як у Эўропе.

*Сусьветны выраб воўны*
*(у 1000 тонах у 1935 г.)*

| | |
|---|---|
| **ПАЎНОЧНАЯ ПАЎКУЛЯ** | |
| Эўропа | 261,0 |
| Паўночн. Амэрыка | 214,2 |
| СССР | 73,9 |
| Азія | 143,5 |
| Паўночн. Афрыка | 51,6 |
| | 744,2 |
| **ПАЎДЗЁННАЯ ПАЎКУЛЯ** | |
| Аўстралія | 450,0 |
| Паўдз. Амэрыка | 254,7 |
| Паўдз. Афрыка | 113,9 |
| Нов. Зэляндыя | 143,8 |
| | 962,4 |
| УСЯГО | 1.706,6 |

Сучасным мамэнтам уся эўрапэйская ваўняная прамысловасьць знаходзіцца у залежнасьці ад прывозу воўны з замор-скіх краінаў. Але становішча тут зноў разнаякае у залежнасьці ад калёніяльных багацьцяў асобных краінаў. Францыя, дзякуючы сваім калёніям, магла пакрываць чвэрць сваіх патрэбаў. У найлепшым стане знаходзілася Вялікабрытанія. Яна чвэрць свайго ужытку воўны вытварала на самым абтоку. Пад брытанскім кантраляваньнем знаходзілася палова сусьветнае вытворчасьці воўны.

Воўна здаўна была матар'ялам для мастацкіх вырабаў. Яна стварыла на усходзе цэлы культ дываноў, што дасягнулі свайго росквіту у Пэрсіі. У арнамэнтацыю дываноў укладзена уся паэзія і творчы замысел усходніх народаў. Фантастычная маляўнічасьць гэтых мяккіх упрыгожаньняў усходняга жытла дасягае нейкае казачнае віртуёзнасьці, што уводзіць нас у зачараваны сьвет Багдадзкага царства. Тая вялізарная роля, якую дываны адыгрываюць ува усходніх народаў, тлумачыцца тым, што увесь хатні культ, прынесены з далёкіх часоў вандроўніцтва, зьвязаны з падлогаю жытла. На падлозе сядзяць, на падлозе сьпяць, на падлозе і ядуць, а таму дываны зьяўляюцца абавязкавай неабходнасьцяй хатняга ужытку. З Усходу дываны у часы крыжовых паходаў трапілі і у Эўропу. Тут у хуткім часе пачалося і сваё вытворства дываноў. Апошнім часам яно асабліва расквітнела у Амэрыцы.

Эўропа, аднак, у гэтым кірунку стварыла нешта і сваё самабытнае, а менавіта габэлены, якія сталіся дзяржаўнай манаполіяй Францыі і упрыгожваюць цяпер найвялікшыя палацы усяго сьвету.

Аднак, не адна авечка зьяўляецца вінавайцай урачыстасьці ваўнянай прамысловасьці і мануфактуры. Найтанчэйшыя



ваўняныя тканіны выраблаюцца з ангорскіх козаў у Індыі. Ведамыя, прыкладам, славутыя кашаміравыя шалікі, але, напэўна, мала хто з нас мог бачыць запраўдны кашаміравы шалік, які, хоць мае самы вялікшы памер, можна лёгка працягнуць праз маленькі жаноцкі пярсьцёнак. Гэты шалік робіцца з пуху гімаляйскіх горных козаў, што жывуць толькі сярод дзікае прыроды і не паддаюцца асваеньню.

Выдатны матар'ял для ваўняных тканінаў — гэта вярблюдавая поўсьць і поўсьць лямы. Але больш арыгінальным зьяўляецца тое, што апошнім часам цудоўную воўну дае нам карова. Супрацьзвычайна, — але гэта так. Італьлянец А. Фэрэтці вынайшаў спосаб з каравячага малака, г. зн. казэіну, атрымліваць валакністую матэрыю, паводля сваіх якасьцяў блізкую да авечай воўны.

Выраб штучнай воўны моцна разьвіўся у Італіі і Нямеччыне. Штучная воўна больш танная і, хоць выраб яе знаходзіцца яшчэ у стадыі разьвіцьця, з аднаго кілёграма казэіну (з рознымі дамешкамі) удаецца атрымаць 1040 грамаў воўны.

Воўну выраблаюць яшчэ з бялковых матэрыяў сойкавых бабоў. Гэта ужываецца ужо у Японіі. Выраблаюць воўну і з рыбных бялкоў. Апошняе ёсьць вынаходзтвам Нямеччыны, як і вынаходзтва спосабу вырабу воўны са шкла і сынтэтычнай воўны з вапны і вугальля. Усе гэтыя спосабы вырабу штучнай воўны чакаюць яшчэ свайго практычнага удасканаленьня.

Цікавым зьяўляецца досьлед ангельскага дасьледніка, што вынайшаў магчымасьць выросьліваньня поўсьці у няжывой скуры. Скура увесь час насычаецца пажыўнай сольлю — і на ёй можа расьці поўсьць усялякай вялічыні. Гэта спроба праробленая на падставе славутага досьледу д-ра Алексіса Карэля, які даводам пажыўнае солі да курынага сэрца, змушаў яго біцца на працягу сямнаццаці год. Досьледы гэтыя, бяссумліўна, маюць буйнае навуковае значаньне.

Мгр. эканамічных навук *І. Нявераў.*



# 25 год Віленскай

1-га студня 1919 году пачала працаваць Віленская Беларуская Гімназія. Страшэнна цяжкі, ваенны быў гэта час. Але беларусы, заўсёды падобныя да арлоў — у часе найвялікшых бураў і войнаў узьлятаюць у неба, каб весьціць нацыянальную праўду аб сваёй Бацькаўшчыне. За арганізатара Беларускае Гімназіі у Вільні быў тварэц сучаснага беларускага вызвольнага руху — Іван Луцкевіч (нарадз. 28.V.1881 — пам. 20.VIII.1919). Іван Луцкевіч быў волатам духу і чыну; усё, што ён стварыў для Беларусі, носіць пячаць перамогі і вечнасьці. Арганізацыя Беларускае Гімназіі у Вільні была апошнім вялікім чынам Івана Луцкевіча, які памёр у Закапаным 20-га жніўня 1919 г.

Праходзілі цяжкія часы, адбываліся войны, зьмяняліся улады, гінулі дзяржавы, але Беларуская Гімназія у Вільні ператрывала усё. 25 год працы аддала ужо гэтая беларуская сярэдняя школа для сваёй Бацькаўшчыны. Гэтыя 25 год працы былі адначасна 25 гадамі цяжкога цярпеньня Беларускае Гімназіі у Вільні. Шмат разоў ворагі Беларусі намагаліся забіць гэтую беларускую школу, але іхныя намаганьні прынясьлі ім сьмерць, а Беларуская Гімназія у Вільні жыве, працуе і разьвіваецца. На гэтай школе лягла пячаць Івана Луцкевіча, а там, дзе ёсьць ягоная пячаць — ёсьць перамога.

Сучасны дырэктар Гімназіі — д-р Фр. Грышкевіч ёсьць чатырнаццатым дырэктарам Беларускае Гімназіі у Вільні і першым дырэктарам, які выйшаў ужо з гадунцоў гэтае беларускае школы. За першага дырэктара Беларускае Гімназіі у Вільні быў Міхал Кахановіч. Паміж дырэктарамі Віленскае Беларускае Гімназіі былі такія выдатныя асобы, як праф. Браніслаў Тарашкевіч, інж. Антон Нэканда-Трэпка, Радаслаў



*Былы дырэктар, Прэзыд. БЦР Р. Астроўскі.*



*Першы дырэктар гімназіі М. Кахановіч.*



*Сучасны дырэктар гімназіі Д-р Фр. Грышкевіч*



*Дом, у якім памяшчаецца Віленская беларуская гімназія (Вострабрамская вул. № 29).*



*Настаўнік, былы дырэктар кс. праф. Ад. Станкевіч (працуе 25 г.).*



*Закладчык гімназіі сьв. п. ...*
*(на фоне брамы Базыльля...*
*(Рыс. П. Сяргіевіча...*

*Алесь Салавей*

## САД

*(Да 25-годзьдзя Віленск... рускай гімназіі...*

*Раней за нашай вёскаю ...*
*Ніколі так яголых строя...*
*Ня ўшчульвалі мне і м...*
*Як у вадну вясну, калі на...*
*Я ў вёску завітаў. І чуў...*
*Плыў гоман; ён мае пач...*

*«Сад -гэты дваццаць пяць...*

*Вясной цьвіце, і дасьць ё...*

*Расьцьвіў і ты у дваццаць...*
*Навукі сад, глыбокай ведь...*
*Багаты будзе дваццаць п...*
*І верны ўзгадавальным за...*
*Ён панясе для ўжытку і д...*
*Сьвятло навукі да крывіц...*

*20. I. 1944 г.*



Закладчык гімназіі сьв. п. Іван Луцкевіч (на фоне брамы Базыльлянскіх муроў).
(Рыс. П. Сяргіевіча.)

# БЕЛАРУСКАЙ ГІМНАЗІІ

Астроўскі, кс. праф. Адам Станкевіч, Мікола Анцукевіч, Фэлікс Стэцкевіч і Сяргей Паўловіч. Гэтыя людзі пакінулі па сабе вечны сьлед у гісторыі Віленскае Беларускае Гімназіі.

Вучыцелямі у Беларускай Гімназіі у Вільні працавалі амаль усе ведамыя беларускія дзеячы. Сярод іх трэба успомніць Максіма Гарэцкага, Аркадзя Смоліча, Антона Луцкевіча, Л. Гарэцкую, Генадзя і Вечаслава Багдановічаў, кс. І. Бобіча, а. М. Пліса, кс. Я. Рэшэця, Алёну Сакалову-Лекант, Івана Савіцкага, кс. А. Станкевіча, Натальлю Банцлебэн, Л. Мэнкэ, Андрэя Якубецкага, кс. У. Талочку, А. Данілевіча, Макара Косьцевіча, Альбіна Стэповіча і усіх тых ахвярных працаўнікоў, якія вучылі беларускую моладзь у Віленскай Беларускай Гімназіі праз 25 год. Беларускі вучыцель быў ня толькі школьным вучыцелям — ён быў нацыянальным бараць-бітом на фронце беларускае асьветы. За гэта беларускаму вучыцелю належыцца чэсьць і слава.

Віленская Беларуская Гімназія за 25 год сваёй працы дала Бацькаўшчыне сотні беларускае патрыятычнае інтэлігенцыі, якая сягоньня ужо творыць гісторыю Беларусі. Гадунец Віленскае Беларускае Гімназіі амаль ніколі ня зрадзіў ідэі Беларусі: ён лягчэй паміраў, але не адступіў ад змаганьня за волю Беларусі.

Старое беларускае места Вільня багаслаўляе сваю родную школу і ахоўвае яе чарам прыгожасьці сваёй гістарычнай легенды.

Няхай жыве Беларуская Гімназія у Вільні і далей разьвівае сваю працу для дабра Беларусі!

Няхай жыве Беларусь!

*Рыгор Мароз*



*Настаўніца А. Сакалова-Лекант (працуе 25 г.)*



*Былы настаўнік, пісьменьнік М. Косьцевіч.*



*Былы дырэктар гімназіі Бр. Тарашкевіч*



*Былы дырэктар інж. Антон Нэканда-Трэпка.*



*Базыльлянскія муры, у якіх памяшчалася гімназія праз чатырнаццаць гадоў.*

Алесь Салавей

## САД

(Да 25-годзьдзя Віленскай беларускай гімназіі)

Раней за нашай вёскаю быў сад..  
Ніколі так ямных строяў шаты  
Ня ўшчувалі мяне і мой пагляд.  
Як у адну вясну, калі на сьвяты  
Я ў вёску завітаў. І чуў — ад хат  
Плыў гоман; ён мае пачуцьці кратаў:  
«Сад-гэты дваццаць пяты год пад рад  
Вясной цьвіце і дасьць ён плод багаты...»

Расьцьвіў і ты у дваццаць пяты год,  
Навукі сад, глыбокай веды цьветам.  
Багаты будзе дваццаць пяты плод  
І верны ўзгадавальным запаветам.  
Ён панясе для ўжытку і для ўцех  
Сьвятло навукі да крывіцкіх стрэх!

20. I. 1944 г.





# СТРАШНЫ ГОД

Юр. Монвід

/Успаміны нядаўніх дзён/

## НЕЧАКАНЫЯ ГОСЬЦІ

Я тады працаваў на электрычнай станцыі у Вільні... У вячэрнія гадзіны тры разы на тыдзень мы зьбіраліся на лекцыі літоўскае мовы. ...Праз пару дзён ужо быў назначаны экзамэн, які меўся вырашыць пытаньне, хто з нас застанецца на працы, а хто — павялічыць лік беспрацоўных...

Гадзіна 6 увечары. Лекцыя скончылася. Разыходзімся. Я вяртаюся дахаты, думаючы аб блізкіх экзамэнах. Каб не «праваліцца»! Цяжка мне давалася літоўская мова!

І канчаючы ужо шосты дзясятак гадоў майго жыцьця, я перанёсься у шчасьлівыя дзіцячыя гады, калі пытаньне аб тым, ці вытрымаеш экзамэны і ці пяройдзеш у вышэйшую клясу, зьяўлялася найважнейшым.

Цяпер пытаньне, што стаяла перада мной, было таксама не малой вагі: ці буду мець магчымасьць зарабляць на хлеб для сябе і сваёй сям'і?

Сівы чалавек, бацька дзяцей, я перажываў перадэкзамэнацыйныя эмоцыі школьніка. Было мне і страшна, і сьмешна, і крыўдна...

Прыбліжаючыся да Зялёнага мосту, я глянуў і — адзервянеў. Праз мост у бок Кальварыйскай вуліцы каціліся-грукаталі нейкія вазы-скрыні. З круглых, адчыненых на іх вежаў высоўваліся галовы у шэрых шпічастых шапках...

Гэта былі яны: бальшавікі!...

*

Прафэсар М. Зьдзяхоўскі, які памёр перад сучаснай вайной у Вільні, не дачакаўшыся бальшавікоў, верыў, што бальшавізм зьяўляецца творам нячыстых сілаў. Ён, падыходзячы да справы містычна, зусім шчыра і паважна пісаў, што у сучасны мамэнт пачынаюць збывацца прадбачаньні у Апокаліпсісе падзеі...

Пры спатканьні з бальшавікамі мяне агартае страх. Гэта ня толькі ведамы кажнаму чалавеку страх сьмерці. Тут ёсьцека нешта болей. Хто з нас, пражыўшы больш за паўсотні гадоў, не глядзеў сьмерці у вочы! Гэта іншы страх. Гэта страх дзіцяці, зачыненага у цёмным пакоі, якое баіцца чагосьці нерэальнага. Гэта страх, які перажываем у сьне, змагаючыся з нечым і ня могучы яго перамагчы, калі непаслухмяныя рукі ня могуць нанесьці забойчага удару, а ногі ня здолеюць варушыцца, каб уцячы...

І мне часам прыходзіць на дум, ці запраўды у факце існаваньня бальшавізму няма чагосьці «патустароньняга», бо глянуўшы на гэтыя шапкі, на гэтыя чырвоныя зоркі, я перажываю містычны страх, нібы я спаткаўся з чортам...

Лепш у голым полі спаткацца са зграяй галодных ваўкоў, чымся неспадзявана пабачыць гэтыя шапкі, гэтыя зоркі, гэтыя скуластыя мангольскія твары, з якімі, здавалася, ужо ніколі ня сустрэнешся.

## УЦЁКІ

Няздольны, як у сьне, да лёгічнага разважаньня, я пабег да свае хаты. Там яшчэ нічога ня ведалі. «Бальшавікі прыйшлі!» — я першы прынёс гэтую вестку.

У гэты мамэнт мне здавалася, што я не павінен ні аднае ночы начаваць у сябе дома. Усёроўна дзе, але толькі не у сябе. Я сеў на аўтабус і паехаў у другі канец гораду да прыяцеля.

Тут мы пачалі усебакова развважаць палажэньне.

Мы прыйшлі да гэткага выснаву: бальшавікі тут ужывуць іншую тактыку, чымся усюды дагэтуль. Літва — незалежная дзяржава, Літва — што атрымала так нядаўна ад бальшавікоў Вільню, Літва — што падтрымоўвала прыязныя адносіны з СССР — перажыве працэс саветызацыі у павольным тэмпе, шляхам эвалюцыйным. Ня будзе раптоўнай ломкі з НКВД, падваламі, расстрэламі. Яшчэ ня хутка пачне зямля гарэць пад нагамі. А цяпер яшчэ можна даўжэйшы час сядзець спакойна і глядзець, як будуць разгортвацца падзеі.

Чорт яшчэ пакуль-што будзе сядзець спакойна, схаваўшы свае капцюры у рукавічках.

Гэтак мы тады думалі, гэтак пацяшалі сябе у гэты непацешны час.

Але у сваёй хаце мне, аднак, начаваць не хацелася.

*

На другі дзень радыё апавясьціла, што уцёк прэзыдэнт рэспублікі Смэтона.

На трэйці дзень я пайшоў да прыяцеляў і мы рашылі назаўтра увечары перабірацца у Нямеччыну.

Падзеі шпарка ішлі. Прыяцелі без мяне пастанавілі прысьпешыць час выезду. Заміж увечары, выехалі ураньні. Мяне не маглі паведаміць, бо мяне трудна было знайсьці, — я не начаваў дома.

Паехалі на граніцу, у бок Нямеччыны. Я застаўся. Даведаўшыся аб іхным ад'езьдзе, пагнаўся за імі. Цягнікі тады хадзілі акуратна. Я знайшоў іх на аўтабуснай станцыі у Коўні. Мы паехалі у прыгранічнае мястэчка Л.

Добра. У кампаніі сьмялей.

Едзем. Ня маем яшчэ ніякага пляну датычна пераходу граніцы. На мейсцы пабачым, разьмяркуем, вырашым...

За Коўняй на кажным масточку — савецкая варта. Кілёмэтар за кілёмэтрам пралятаем шпарка. Нарэшце, на нейкай рэчцы мост — бяз варты. Я штурхнуў у бок майго прыяцеля:

— Бачыш?

— Бачу.

— Тут іх няма...

— Няма...

Мы уздыхнулі: бальшавікі да граніцы яшчэ не дайшлі.

А вось і мястэчка Л. Жыдкі абкружылі аўтабус. Публіка высядае. Прыехала пара ксяндзоў, літоўскі афіцэр, нейкія цывільныя, у іхным ліку і мы...

Мы знайшлі патрэбнае знаёмства... Пераначавалі... Знайшоўся і шофэр са сваім аўтам. Мы з камфортам паехалі да граніцы. Затрымаліся у хутары чвэрць кілёмэтра ад граніцы. На стале зьявілася гарэлка і закуска. Наша прабываньне тут павінна было мець характар вясёлага пікніку, на выпадак, калі-б заглянула сюды пагранічная старожа.

Мы глядзелі праз вакно: вось там, за гэтым гародам горка, на ёй бачна хатка. Гэта ужо — за граніцай! Але, каб было больш пэўна — тутэйшы чалавек правядзе нас праз гэты гародчык, паможа нам несьці нашыя клункі.

Гэтак блізка! Там бальшавікі ужо нас не дастануць!

Прыбегла, задыхаўшыся, дзяўчына.

— Пагранічная старожка, — кажа палітоўску, — атрымала тэлефонную вестку: з мястэчка Л. дзьве гадзіны таму выехалі два грузавікі з бальшавікамі абстаўляць граніцу...

Нельга марнаваць часу. Гарэлка і закуска засталася стаяць на стале, як стаяла. Мы схапілі свае клункі. Кінуліся у гарод. Адзін за адным, гуськом, пабеглі мяжой у кірунку хаты, што стаяла на горцы. На самай граніцы — рэчка. Там нас затрымала нямецкая старожа...

## ЗА МЯЖОЙ

Спачатку прымежнікі гавораць з намі строгім тонам, пасьля, даведаўшыся, хто мы, перамянілі тон на больш ветлы. Вядуць нас у сваю старожу. Адносіны ужо зу-

*Н. Арсеньнева*

### ПАЭТ

Сьвет гарыць...
Патайком і адкрыта
Б'юцца людзі... Ня зьлічыш
нязгод...
А над сьветам, манoccupied спавітым,
Восень жоўта цьвіце, як штогод.
Ты, паэт, хоць і бачыш пажары
Там далёк, хоць і ты барацьбіт,
Але, ўпіўшыся восені чарам,
Лічыш вершаў разбуджаны
рытм.
Блескі сонца сачыш над аўсяньнем,
Сінім змрокам малюеш палі...
Для цябе сяньня —
Гнеў, ці змаганьні
Дзесь за межы жыцьця адплылі.

*Р. Крушына*

### ЗАСЬПЯВАЙ

Засьпявай, мой няведамы лёс!
Ці ў сьвятле, ці пад чорнымі хмарамі
Твая песьня мяне аж да сьлёз
Закалыша пяшчотнымі марамі.
І пачуцьці ў халодных мурох
Не зачахнуць, як вязьні за кратамі.
Панясу іх на мяккі мурог,
Над каханай рассыплю каратамі.
20. XI. 43 г.

сы добрым. Трактуюць нас сваймі цыгарамі.

Паслалі у суседнюю вёску па хурманкі. Яшчэ перад захадам сонца павезьлі нас у найбліжэйшае мястэчка. Там мы пераначавалі у камандантуры. На другі дзень павезьлі нас цягніком у горад С.

— — — — — — — — —

Мае таварышы ужо даўно рыхтаваліся да выезду у Нямеччыну. Яны падрыхтавалі сабе грунт. У нямецкім прадстаўніцтве у Коўні атрымалі дазвол на пераезд у Нямеччыну.

Мой выезд быў непрадбачаны, дазволу я ня меў. Мае таварышы засталіся, мяне — скіравалі назад на граніцу.

Ня я адзін апынуўся у гэткім няўдалым палажэньні. Разам са мной скіроўвалі на граніцу аднаго з віленскіх адвакатаў, які перабіраўся у Варшаву. Яго у горадзе С. судзілі, далі яму за нелегальны пераход граніцы тры дні вастрогу і пасьля адсідкі перакідалі назад у Літву.

## НАЗАД...

У выгодным аўта ехалі мы... назад... Вось і пагранічная старожа. Прыехалі хутка. Цяпер палудзенная гадзіна.

Мы расьселіся на траўцы, курылі папяросы і чакалі. Нявесела было нам.

Вокны казармаў былі адчыненыя. Быў бачны рух у кухні, дзе кухаркі варылі страву для жаўнераў. Ужо сонца падыходзіла да небасхілу, калі мы пачулі у кухні гутарку, ад якой нам мурашкі прабеглі па сьпіне. Але можа мы недачулі? Можа нешта ня так?

Мой таварыш добра гаварыў панямецку. Ён пайшоў да нашага сымпатычнага афіцэра, каб праверыць чуткі...

Але. Гэта была праўда. Нядаўна, пад вечар, ня больш гадзіны часу таму, на граніцу зьявіліся бальшавікі...

Ужо і гэты адрэзак літоўска-нямецкай мяжы заняты бальшавікамі.

Але што казаць бальшавікам, калі апынімся на іхным баку?

Уцякаем з Нямеччыны? А якія дакуманты? У мяне пашпарт, выдадзены у Вільні і зарэгістраваны толькі у Вільні. Казаць, што заблудзіліся? Але дзе былі? Мой кумпан раіць: скажам, што былі у гасьцях у маёнтку. У якім? У каго? Няма што казаць, няма выкруту...

Гэтак мы мучыліся, перабіраючы усе магчымыя тлумачэньні...

Я ведаў адно: калі не уцячом — гэта ужо мой канец. Страшны канец. Буду уцякаць, што ёсьць сілаў, колькі дазволіць маё ужо немаладое сэрца, хай страляюць, хай заб'юць — гэта добра, каб толькі не застацца жывым у бальшавіцкіх руках.

Вечарэла... Загараліся першыя зоркі... Надыходзіць страшная часіна: пераход граніцы — туды! Назад! дзе чырвоная нечысьць «будуе новы сьвет»...

*(Працяг у наступным нумары)*

---

<u>*Алесь Салавей*</u>

## *ПЕСЬНЯ*

*(З «Калевалы»)*

*Мне адно прыйшло жаданьне,*
*Я адну задумаў думу:*
*Каб барджджэй за сьпевы ўзяцца,*
*Каб хутчэй прамовіць слова,*
*Прасьпяваць каб песьню продкаў,*
*Роду нашага напевы.*
*Словы ўжо да вуснаў ліпнуць,*
*І струменяцца ўжо гукі,*
*На язык яны імкнуцца,*
*Разьбіваюцца аб зубы.*

*Залаты мой сябра й брат мой!*
*Дарагі камрат маленства!*
*Мы з табой сьпяваем разам,*
*Мы з табой прамовім слова.*
*Мы убачыліся ўрэшце,*
*З двух бакоў цяпер зышліся;*
*Рэдка мы бываем разам,*
*Спатыкаемся нячаста.*

*Ну, дык дай свае мне рукі,*
*Пальцы нашы разам злучым;*
*Прасьпяваем песьні гучна,*
*І пачнём мы зь лепшых песьняў;*
*Хай сябры пачуюць сьпевы,*
*Хай іх слухаюць прыветна*
*Між юнацтва маладога*
*Шматпакутнага народу,*
*Што урэшце стаў на ногі.*

*Іх сьпяваў раней мой бацька,*
*Цэп выразваючы з дрэва,*
*Іх навучыла мяне маці,*
*Прадучы сваю кудзелю.*
*Я тады дзіцём на доле*
*Ля каленаў іхных поўзаў,*
*Быў драбочкам, харчаваўся*
*Малаком і сыраквашай...*

*Шмат яшчэ ёсьць іншых словаў*
*І, мне ведамых, пазнаньняў,*
*Што нарваў я на сьцяжынцы,*
*Што на верасе зламаў я,*
*Што з кусточкаў адламаў я,*
*Што набраў я на галінках,*
*Што сабраў сабе ў травах,*
*Што падняў я на дарозе...*

*Мне мароз намовіў песьняў,*
*Нанасіў мне песьняў дожджык,*
*Мне навеяў песьняў вецер,*
*Хвалі водныя прынесьлі,*
*Словы мне складалі птушкі,*
*Гукі мне стварылі дрэвы.*

*Я ў адзін клубок зьбіраў іх,*
*У вадзін зьвязаў іх зьвязак,*
*І паклаў клубок на санкі,*
*І паклаў на сані зьвязак.*
*Іх дамоў прывёз на санях,*
*І на санках да асеці,*
*І пад кроквамі у клеці*
*Іх замкнуў у медны кораб.*

*Доўга песьні на марозе,*
*Доўга ў схове тым ляжалі.*
*Мо' забраць мне іх з марозу?*
*Можа з холаду узяць іх?*
*Мо' прынесьці ў хату кораб?*
*На тапчан паставіць куфар,*
*І пад кроквамі пакінуць*
*Пад чароўным гэтым дахам?*
*Адчыніць мо' кораб песьняў,*
*Куфар, поўны словаў гучных?*
*За канец клубка мо' ўзяцца?*
*Вузел зьвязку мо' разблытаць?*

*Песьняў слаўных ёсьць нямала —*
*Зь іх адну я засьпяваю;*
*Загучыць яна прыемна,*
*Калі квасу паднясуць мне*
*І дадуць ржанога хлеба.*
*Калі-ж мне ня будзе квасу,*
*Не дадуць мне маладога —*
*Засьпяваю я нішчымна,*
*Або з поснаю вадою,*
*Каб і вечар быў вясёлым,*
*Каб і дзень быў уваздобе,*
*І каб ранішняй пацехай*
*Заўтра дзень у нас пачаўся.*

*1943 г.*

---

# ІВАН НАСОВІЧ

*(У 155 угодкі нарадзінаў і у 80 угодкі ягонага «Слоўніка беларускай мовы»).*

*Сучасная беларуская літаратура і навука пераважна апіраецца на працах этнографаў, каторыя зьбіралі матар'ялы аб нацыянальных асаблівасьцях беларускага народу, аб прыродзе і гісторыі беларускай зямлі. Зьбіраньне этнаграфічнага беларускага матар'ялу пачалося амаль з пачаткам XIX стагодзьдзя, але зусім разьвітная і вельмі плодная праца пачынаецца з 70-х гадоў. Побач з польскімі і расейскімі этнографамі працуюць і беларускія, а паміж іх найвыдатнейшым быў Іван Насовіч — этнограф-самародак, як называюць яго некаторыя гісторыкі.*

*Дык гэты этнограф-самародак даў шмат каштоўнага матар'ялу для беларусазнаўства. Нястомна працаваў ён на беларускай ніве, дзе сабраў «Беларускія песьні» і адкуль даў «Зборнік беларускіх прыказак», высока ацэнены вучонымі этнографамі.*

*Найбольшую славу Насовічу даў ягоны «Слоўнік беларускай мовы», у каторым зьмешчана больш 30.000 словаў з расейскімі тлумачэньнямі і беларускімі прыкладамі іхнага ужытку. Слоўнік быў пададзены у Расейскую Акадэмію Навук у 1863 г. пасьля 16-гадовай працы над ім. За гэты слоўнік Насовічу Акадэмія прысудзіла Дзямідаўскую прэмію і у 1870 г. яго надрукавала.*

*Дарэчы заўважыць, што скласьці слоўнік жывой беларускай мовы Акадэмія пастанавіла яшчэ у 1851 годзе. Гэта выклікалася патрэбаю зразуменьня важных і цікавых гістарычных актаў, пісаных пабеларуску, каторыя пачала выдаваць Археаграфічная Камісія. Скласьці слоўнік Акадэмія даручыла старшыні Археграфічнай Камісіі пратаярэю Грыгаровічу, але пасьля хуткай ягонай сьмерці гэтая праца была даручана нашаму этнографу-самародку — Івану Насовічу. Ён з любасьцяй узяўся за гэтую працу і хоць папрацаваў, але для славы свайго народу даў першы вялікі зборнік ягоных словаў. Гэтым слоўнікам І. Насовіч здабыў сабе вечную славу.*

*Іван Насовіч радзіўся у Мсьціслаўлі у 1788 годзе (сялета 155-я угодкі ягоных нарадзінаў). Бацькам ягоным быў таксама Іван Насовіч, сьвяшчэньнік, і сына свайго рыхтаваў для гэтага стану. Але будучы этнограф па сканчэньні у 1812 г. Магілеўскай Духоўнай Сэмінарыі пайшоў іншым шляхам — асьветным. Ён працаваў у розных мяйсцовасьцях Беларусі як вучыцель і, наагул, як працаўнік асьветы. Пад канец жыцьця займаўся літаратурнаю працаю і жыў у Мсьціслаўлі. Памёр у 1877 г. 25 ліпня паводля старога стылю (6 жніўня паводля новага стылю).*

*У. П.*

# ПАМЯЦІ ВАЦЛАВА ІВАНОЎСКАГА



Рука подлага злачынцы перарвала жыцьцё старэйшага сябры беларускага нацыянальнага вызваленчага руху, старшыні гораду Менска прафэсара хэміі, інжынэра і доктара хэмічных навук Вацлава Іваноўскага.

Нарадзіўся В. Іваноўскі у 1880 годзе на Лідчыне. Вучыўся у Расеі і заграніцай. Чалавек ён быў выняткавай працавітасьці і асягнуў вялікае веды, высока разьвіў свой інтэлект і меў непахісны сьветапагляд на сучаснасьць і пэрспэктыўнасьць жыцьця беларускага народу і увязкі яго з іншымі народамі Эўропы.

Сьв. п. В. Іваноўскі быў адным з заснавальнікаў беларускага нацыянальнага руху, беларускага адраджэньня, адзін з нямногіх прафэсароў і навукоўцаў, які зразумеў, што беларускі народ ёсьць народам, і яму толькі трэба дапамагчы знайсьці дарогу да асьветы, да разбудовы дабрабыту. Абавязак яго, як вучонага, — стаяць на чале народу, змагацца за ягонае лепшае прышлае. Ён зразумеў, што ні Варшава, ні Масква не зьяўляюцца фундаментальным абгрунтаваньнем іхнага удзелу у арганізацыі грамадзкага, гаспадарскага і палітычнага жыцьця Беларусі. І гэта у той час, калі было модным для многіх імкнуцца да кар'еры, стаць інжынэрам, быць высока забясьпечаным урадаўцам і выдаваць сябе за расейца, або за паляка. Вацлаў Іваноўскі заявіў чынна, што ён ні паляк, ні расеец, што ён — беларус. Гэтая сьмеласьць на гэны час была вельмі рызыкоўнай і цягнула за сабою нявыгады і прасьледы.

Вацлаў Іваноўскі з самага пачатку стабілізацыі сваей сьведамасьці быў беларусам, і у 1907 годзе у Пецярбурзе распачынае арганізоўваць культурна-палітычнае жыцьцё сярод беларусаў. Выдаё часапісы, кніжкі і газэты. Арганізоўвае беларускае жыцьцё, вядзе яго да заходніх праверaных аўтарытэтаў, падыймае жыцьцё угару і адчыняе яму пэрспэктыву.

Насоўвалася усходняя навала люмпэнпралетарыяцкай экспансіі на Беларусь. У 1918 годзе Вацлава Іваноўскага высылаюць у Смаленскую катаржную турму. Па доўгім часе пабыту там, яго звальняюць. Бачачы перавагу цёмных сілаў, скіраваных супраць яго, адыходзіць на узбочча грамадзкае працы, становіцца толькі навукоўцам. Бальшавікі пачынаюць заігрываць і прапануюць яму з Вільні пераехаць на навуковую працу у Менск. Прапанову гэтую ён з пагардаю адкідае. Пэрыяд польскай пілсудчыны робіць імглістыя прапановы Вацлаву Іваноўскаму перайсьці на польскі бок, але і гэта ня вабіць яго. Ён працуе толькі прафэсарам вышэйшага навучаньня у Варшаве. І там ён, пры зачыненых дзьвярох свайго габінэту, вядзе крывіцкую работу сярод беларускіх студэнтаў, вучыць іх мацнець духам.

Зьняважлівы Вэрсальскі трактат дажываў свае апошнія дні. Нямецкая армія у 1939 годзе парвала ланцугі Вэрсальскага трактату, а у 1941 годзе вызваліла Беларусь ад бальшавіцкага панаваньня. Вацлаў Іваноўскі, разам з маладымі запальнымі беларускімі юнакамі, становіцца на шлях змаганьня за правы і гонар беларускага народу спачатку у Вільні, а потым у Менску, дзе і загінуў на сваім становішчы, як жаўнер.

Сьв. п. В. Іваноўскі паў ад удару з-за вугла, ад удару бандыцкага, нікчэмнага, падступнага і сукрытабойнага, да чаго здольныя толькі бальшавікі і іхныя аднадумцы. Але накшталтныя удары не запалохаюць нас. На зьмену паўшым расьце новая сьведамая зьмена. Беларускі народ бярэ у рукі зброю для канчальнае перамогі над цёмнымі сіламі ворагаў. Лепш загінуць у змаганьні, як быць нявольнікамі Сталіна і ягонае зграі.

Перамога не дасягаецца без ахвяраў. І беларус верыць у перамогу над ворагам. Беларус адбудуе свой край і залечыць нанесеныя вайною раны, паставіць помнік загінуўшым за народную справу.

Вечная памяць адыйшоўшаму ад нас, ганьба замахаўцам і іхным аднадумцам!

*Ю. Сабалеўскі.*







*На паховінах Вацлава Іваноўскага у Менску адзінаццатага сьнежня 1943 году.*

# КАМЕННЫЯ КРЫЖЫ НА БЕЛАРУСІ

## З ПОЛАЦКАЙ СТАРЫНЫ

Полацак — наша старадаўняя сталіца з яе ваколіцамі. Нягледзячы на шматвяковыя навальніцы і віхуры, хавае яна у сабе многа старасьвеччыны яшчэ мала дасьледаванай і малаведамай. Да ліку такіх цікавых помнікаў нашай сівой мінуўшчыны трэба аднесьці каменныя крыжы, якія раскіданыя былі раней па ўсёй Беларусі, а зараз захаваліся толькі у некаторых мясцовасьцях. Ставіліся яны у старыну на братэрскіх могілках нашых продкаў, што баранілі сваю бацькаўшчыну ад нападу ворагаў, высякаліся яны з дзікіх валуноў і былі з надпісамі і бяз надпісаў.

Крыху такіх крыжоў знаходзіцца у в. Екімань, якая раскінулася на левым беразе Дзьвіны, насупраць Полацка.

Археалёгі адносяць гэтыя крыжы да часоў лівонскай вайны XVI ст., калі Полацак стаўся арэнаю жорсткіх сутыкненьняў паміж войскамі Маскоўскага цара Яна Грознага і польскага караля Стэфана Баторыя.



*Узгорак, на якім знаходзіцца першы Екіманскі крыж (вёска Екімань, на левым беразе Дзьвіны, насупраць Полацка.*



*Першы Екіманскі крыж.*

Першы каменны крыж знаходзіцца на узгорку, каля якога стаіць Екіманская праваслаўная царква. Гэты узгорак, ці курган, займае ушыркі абшар каля 180 м. На самым версе кургану стаіць крыж бяз надпісу; крыж зроблены з шэрага гранітнага валуна і узвышаецца над курганам на 4 хуты. Крыж досыць добра захаваўся і толькі стаіць крыху з пахілам.

Другі крыж, крыху меншых памераў (у вышыню мае 2 хуты і 6 цаляў), стаіць ніжэй царквы, на адлегласьці яе каля 14 мэтраў і знаходзіцца на парахвіяльным «жальніку», як называюцца тут мясцовымі жыхарамі - беларусамі старыя магільнікі. Крыж гэты папсаваны, пашчапаны ледзь не на палову.

Трэйці каменны крыж знаходзіцца у 5 кл. ад Екімані, каля вёскі «Ксты» ці «Крыжы». Вёска гэта атрымала свой назоў ад колькіх каменных крыжоў, якія знаходзіліся каля яе.

Але з гэтых крыжоў цяпер захаваўся толькі адзін і мáе надпіс; зроблены ён з валуновага граніту, але больш мяккага і больш чырвонага, а з гэтае прычыны надпіс цалкам не захаваўся.

Надпіс выбіты на пярэднім баку і чытаецца так:

СТО
ВЪХРЬ
СТАНУКО
. . . . .

Што азначае гэты надпіс — цяжка сказаць. Археалёгі знаходзяць, што паводля нарысу літараў гэты надпіс мáе падабенства з надпісам на крыжы, што знаходзіцца на дарозе у м. Улу, Лепельскага павету на мейсцы старадаўняй крэпасьці Кап'ё, якая была разбураная Стэфанам Баторыям у час вайны з Янам Грозным у 1579 г.

На гэтым крыжы груба славянскімі літарамі высечаны надпіс: «1569 г. ту положана 200 жовнераў во Хрысту поставил после битвы . . .» Калі параўнаць літары гэтага крыжу з Кстоўскім крыжам, дык паміж імі будзець значнае падабенства.

Чацьвёрты каменны крыж, падобны да апісаных, знаходзіцца на царкоўным магільніку у в. Сітно, Полацкага павету. Як ведама, у 1563 годзе, тут маскоўцамі быў пабудаваны умацаваны замак, але ён на загад Стэфана Баторыя быў разбураны пасьля былой тут бойкі 4 жніўня 1579 г.

Сітнянскі крыж значна папсаваны: верх ягоны і папярэчыны аббітыя, бо мясцовыя сяляне адбівалі кавалкі крыжу для гастрэньня косаў і сярпоў.

Так паступова гінуць помнікі глыбокай старыны на Беларусі, якія заслугоўваюць таго, каб быць захаванымі і дасьледаванымі.

С. С.



*Другі Екіманскі крыж.*



*Крыж каля вёскі Ксты (Крыжы).*



*Крыж каля замку Кап'ё.*

# Вясельле на Палесьсі



Скончыліся ўжо працы ў полі. Выкапалі людзі бульбу. Глядзіш — ужо і зіма. Цяпер і за жанімствы ўзяцца можна.

Увечары пад звон шалястуноў пад'яжджаюць пад хату дзяўчыны сваты.

Сват — падстаркаваты чалавек — пад пáхаю булку хлеба, абкручаную вышываным ручніком, прыспароміў, у руцэ пугу гаспадарскую трымае... за ім сьледам сам малады ідзе.

Заходзяцца ў хату; ля парогу абавязкава перад першаю бэлькаю столі затрымоўваюцца і належную выпадку размову з гаспадаром пачынаюць...

І плыве апавяданьне аб тым, як яны, паляўнікі з краю далёкага, куну — харашуху — заўважылі і гоняць яе праз лясы, праз бары; аж да гэтае хаты сьлед ейны іх завёў...

І ганарыцца гаспадар, зьвера-куну сваю выхваляючы:

«Ня вам, паляўнікам, гэткую куну упалявáць!... А купіць — дык і грошай пэўна ня хопіць...»

І просяцца паляўнікі — сваты — ночаньку пераначаваць, адпачыці крыху, каб аб куне патаргавацца...

Запросіць гаспадар ад парогу — на покуце — пры стале сесьці — значыцца прынятае сватаньне.

Не запрашае — значыцца зьбірайцеся, сваты, далей у дарогу! Ня вам гэтая куна падрыхтаваная. Іншага паляўніка чакае!...

А калі ўжо першую бэльку пераступілі, пры стале селі, — кладзецца на стол булка хлеба, ставіцца прывезеная сватамі бутэлька... Сыходзяцца найбліжэйшыя крэўныя дзяўчыны і пачынаюцца «запоіны». Абгаварваюцца за чаркаю справы пасагу, гэтак важнага ў сялянскім жыцьці, вызначаецца тэрмін вясельля...

*

У сыботу перад вясельлем зраньня ў «запітай» дзяўчыны рух вялікі, каравайніцы — маладухі і дзяўчаты — сабраліся каравай пячы. Начоўкі з усіх бакоў абступілі, пад гукі абрадавае каравайнае песьні цеста месяць, каравай пякуць...

У маладога таксама каравай пякуць сёстры, суседзі на дапамогу сабраліся.

*

У нядзелю рана ў маладой хата ходырам ходзіць; дружкі маладую ў камору прыбіраць павялі... Астатнія — ад гасьцей, ад крэўных маладой дарункі прыймаюць, стол рыхтуюць, бо ніводзін госьць без «варэні» ня прыходзіць. А ў «варэні» — сала, масла кавалак, каўбасы колца, бутэлька з гарэлкаю.

Зазьвінелі здалёк шалястуны, званкі, загрукаталі колы. Гэта дружына маладога па маладую едзець.

На першым возе — музыкі, а на другім — свацьця з караваем, малады і сват-маршалак сядзяць, а далей — дружына маладзецкая.

Прыехалі. У хату, спатканыя гаспадарамі, зайшліся, пры стале селі...

Ой, у садочку-вінаградачку
Разьвяваецца зельле,
Маладога Міхася
Пачынаецца вясельле...

*

А вось ужо і да царквы пара́! Маладыя, за рукі ўзяўшыся, да бацькі падыходзяць і, стаўшы на калені, багаслаўленьня просяць.

Багаслаўляе бацька маладую пáру, даючы булку хлеба ім цалаваць, а тут ужо сват з ручніком чакае. Бяруцца маладыя за адзін канец ручніка рукою, а сват за другі, — маладых навакол стала тры разы абводзіць...

...На вазы паселі... З Богам!...

Па шлюбе, з музыкаю і сьпевамі вяртаюцца маладыя да хаты маладой, жартаўлівыя прыпеўкі ў дарозе аб папу пяючы:

А мы папа ашукалі,
Нямнога за шлюб далі

Спатыкаюць маладых бацькі на панадворку. Бацька чарку і бутэльку ў руках трымае, маці — на прыкрытым ручніком вечку ад дзяжы — мёд у ісподку і абаранак, на кавалкі пакрышаны...

І — зноў банкет...

Пад'елі госьці, падпілі, час і надараньня маладых надыйшоў; сват ручніком абвязаўся, у талерку жыта насыпаў, хусьцінаю яе абцягнуў, між гасьцей рушыў пад сьпеў адумысны:

У нашай маладой вялікая радзіна, —
Як скіне па залатому — будзе грошаў скрыня...

І кідаюць госьці на талерку залатавікі-дзесяцірублёўкі... Маладым на пачын!

*

Апаўночы пад сьпеў абрадавы з каморы каравай дзяліць вынясьлі:

Нагневаўся каравай,
У каморы стоючы,
Што самі п'яце, гуляеце,
А пра мяне ня дбаеце...

Падзяліўшы каравай і за ачэпіны пара́.

Пасадзілі маладую на дзяжы, выварачаным кажухом акрытую, з боку брат маладой стаў. Трэба маладому ад брата касу выкупаць...

Таргуецца брат за сястрыну касу, ня хоча маладому прадаць. Малады мусіць усю дружыну маладой цукеркамі частаваць. Брату чарку падносіць.

Ужо маё падвор'е ня мыта,
Ужо мая сьвятліца ня бела,
Ужо мая сямейка змарнела.
Русая косынька за шастак,
А белае лічачка пайшло і так.

*

Па ачэпінах, пасьля новае закускі, пара́ маладых і спаць скіроўваць. Даў маршалак сыгнал пяюньням са свацьцяю, каб спальную песьню зацягнулі...

Ой, знаці, знаці
Хто хоча спаці,
Вочкамі плюшчыць,
Ножкамі лушчыць...

Маладую пад рукі сванькі падхапілі, маладога сват з дружбаю абкружылі, сьпераду музыкі, марша рэжучы, рушылі, а ззаду ўсе госьці вясельныя песьні сьпяваюць адумысныя:

Мамачка, ужо да клеці вядуць.
Дзіцятка, там мёду дадуць...

Маладую свацьці на пасьцелю павялі, навучаючы, як з мужам трэ' захоўвацца... За маладымі дзьверы зачынілі, а самі, вярнуўшыся ў хату, гарэлку піць канчаюць, у лявонісе мітусяцца...

*

Ураньні, падмацаваўшыся, трэ' маладым і ў дарогу зьбірацца — да маладога ў хату ехаць.

Спатыкаюць маладых і там госьці з песьнямі, бацька з маткаю, гарэлка з чаркаю...

*К. Палляшук.*



*Уверсе: Сватаньне. Зьлева: Прыбіраньне маладой. (Фота Я. Шыманчыка.)*

# Запавет Максіма Гарэцкага

## БЕЛАРУСКАМУ ТЭАТРУ



*Максім Гарэцкі.*

Летась споўніліся 30-я угодкі ад таго часу, калі Максім Гарэцкі зьмясьціў у «Каляднай пісанцы 1913 году» свой гарачы артыкул-заклік да беларускіх драматургаў і артыстых, у якім ён выказаў свае думкі аб ролі і задачах беларускага тэатру, аб тым, як трэба у тэатры працаваць, ды што трэба паказваць нашаму гледачу. Артыкул гэты мáе назоў «Наш тэатар» і адлюстроўвае пагляды на тэатар тагачаснага маладога беларускага грамадзтва. З тэй пары мінула трыццаць гадоў, але нягледзячы на сваю 30-гадовую даўнасьць, артыкул гэты ня страціў сваёй актуальнасьці яшчэ і да сяньня.

Перш-на-перш аднатоўвае М. Гарэцкі вялікае узгадавальнае і грамадзка-усьведамляючае значэньне нацыянальнага тэатру для нашага народу. «Пакажэце беларусу са сцэны, — піша М. Гарэцкі, — хто ён, чым ён быў, што ён цяпер, чымбы ён мог быць, гукнеце яго са сцэны да новага жыцьця, — і Божа мілы! — гэты гаротнік беларус, пераканаўшыся, ужо знойдзе здольнасьці парваць ланцугі рабства, патрапе крыкнуць: «Жыве Беларусь!» так дужа, што векавыя муры нявolі, як тыя сьцены ерыхонскія, пасыплюцца у прах. Доўг нашых пісьменьнікаў — паказаць беларусу, у якой пушчы ён блудзіць і дзе ляжыць яму дарога на шырокае роднае поле вольнага жыцьця.» (Балонка 15-я). Як высака ацэньваў М. Гарэцкі маральныя уплывы тэатру на народ, відаць з ягонага лёзунгу: «Тэатар наш павінен стаць хорамам нашага адраджэньня!» (Бал. 18-я).

Другое, што асабліва старанна адзначае М. Гарэцкі, гэта тая вялікая роля, якую адыгрывае нацыянальны тэатар у справе змаганьня за чысьціню роднае мовы. Ён цешыцца, што маладэ тады яшчэ беларускі тэатар, што заклаўся у 1910 годзе у Вільні высілкамі Ігната Буйніцкага, Алеся Бурбіса і Алёізы Пашкевіч (Цётка), пры дзейнай падтрымцы Францішка Аляхновіча, — здолеў ужо у 1912 годзе даць на сцэне і «ладную беларускую гаворку» і прыгажосьць разважнай беларускай інтанацыі», якой не хапала у першых беларускіх аматарскіх пастаноўках у Пецярбурзе. Мова артыстых са сцэны уплывае на мову усяго грамадзтва. Таму кажны артысты павінен асабліва добра гутарыць пабеларуску і шліфаваць сваю мову: «А вы, жрацы у хораме нашага адраджэньня, каторыя ужо ёсьць і каторыя яшчэ народзяцца, вы, лепшыя пчолкі з рою млада-беларусаў, мастакі і штукаркі тэатру беларускага, вы асабліва вучэцеся мове і дбайце аб яе сіле і прыгажосьці! Вы — настаўнікі красамоўства і прыгожай гаворкі, тое, што вы скажаце добра са сцэны, з вялікаю сілаю укладзецца у душу беларускую.» (Балонка 21-я).

Далей зьвяртаецца М. Гарэцкі да беларускіх пісьменьнікаў і заклікае іх вывучаць беларускую мову на жывых прыкладах мовы нашага народу, сабраных нашымі этнографамі, а таксама праз штодзённы кантакт з народнымі масамі: «Пісьменьнікі беларускія! пільней прыслухоўвайцеся да мовы людзей нашых на рынку, на кірмашы і усюдах-усюдах. І тыя, што жывяцё на захадзе Беларусі, даведайцеся, як гавораць на яе усходзе, а усходнія пабывайце на захадзе. Як кругаварот крыві у целе чалавецкім даець здароўе арганізму, так гэты пераліў нашых сілаў на Беларусі аджывіць арганізм Беларусі і зробіць яго дужэйшым.» (Бал. 21-ая).

Рáдзіць М. Гарэцкі, каб часьцей чуваць была са сцэны беларуская народная песьня, і да таго ня штучна перакручаная, але хоць і апрацаваная памастацку, аднак-жа не адарваная ад роднага караня. Ён апісвае, якое непараўнальна моцнае і захапляльнае уражаньне зрабіла на колькі сотняў слухачоў простая беларуская «Чачотачка», якая больш узьняла дух грамады, чым глыбокая думкаю, але чужая мэлёдыяй, цудоўная песьня-гімн «А хто там ідзе?». Трэба, каб песьня была сваёй: «...каб ад яе павеяла на людзей араматным пахам беларускай народнай паэзіі, каб пачулася у ёй турлычная песьня жаўронка пад вясеньнім небам над зялёнаю руньню, каб у ёй пачуўся і далёкі спакойна-тужлівы гук бяроставай трубы хлопчыка, што кароў пасець каля рэчкі, і шум бясконцы лясоў непраходных». (Бал. 23-я).

Калі перачытваеш цяперака старыя гэтыя радкі, напісаныя М. Гарэцкім у 1913 годзе, а таксама і іншыя артыкулы і выказваньні, што зьяўляліся у друку пачынаючы ад 1906 году і ужо даўно сталіся бібліяграфічнаю рэдкасьцяй, знаходзіш у іх шмат такога, што яшчэ і сяньня трэба штодня паўтараць ва усёй нашай прэсе, каб гэтыя старыя, але заўсёды правільныя думкі давесьці да сьведамасьці кажнага артыстага, пісьменьніка і грамадзкага дзеяча нашае краіны, каб запавет Максіма Гарэцкага беларускаму тэатру быў-бы, нарэшце, цалкам ажыцьцёўлены.

*К. Палачанін.*

## Нямецка-беларускія размовы

**Абазначэньне вымовы нямецкіх словаў беларускімі літарамі:**

**а:, э:, і:, у:, о:** — вымаўляць працяжна;
**г'** — як г у слове ганак ці лацінскае **g**;
**ю̈** — як **і**, але з выцягнутымі вуснамі;
**ö** — як э, але з выцягнутымі вуснамі;
**нᴦ** — як н, але вымаўляць праз нос;
усе іншыя літары — як і беларускія.

Es gibt keine Neuigkeiten (эс г'і:пт кáйнэ нóйіхькайтэн). — Навінаў няма.

Man spricht nicht davon (ман шпріхьт ніхьт дафóн).—Аб гэтым ня гутараць.

Man hat gute Nachrichten (ман гат г'ý:тэ нáхріхьтэн). — Ёсьць добрыя весткі.

Haben Sie die Zeitung gelesen (гá:бэн зі: ді: цáйтунᴦ г'элé:зэн)? — Ці Вы чыталі газэту?

Was sagen die Zeitungen (вас зá:г'эн ді: цáйтунᴦэн)? — Што пішуць газэты?

Ich möchte gern die gestrige Zeitung sehen (іхь мöхьтэ г'эрн ді: г'э́стріг'э цáйтунᴦ зэ́:эн). — Ахвотна хацеў-бы пабачыць учарайшую газэту.

Hier ist die heutige (гі:р іст ді: гóйтіг'э) — Вось сяньняшняя.

Haben Sie das in irgendeiner Zeitung gelesen (гá:бэн зі: дас ін íрг'эндайнэр цáйтýнᴦ г'элé:зэн)? — Ці Вы гэта прачыталі у якой-небудзь газэце?

Haben Sie von Ihrem Herrn Bruder Nachrich erhalten (гá:бэн зі: фон í:рэм гэрн брý:дэр нáхріхьт эргáльтэн)? — Ці Вы атрымалі весткі ад свайго брата?

Wie lange ist es her, dass er Ihnen nicht mehr geschrieben hat (ві: лянгэ іст эс гэ:р, дас э:р í:нэн ніхьт мэ:р г'эшрí:бэн гат)? — Ад якога часу ён Вам ужо ня пісаў?

Seit drei Wochen hat er nicht geschrieben (зайт драй вóхэн гат э:р ніхьт г'эшрí:бэн). — Ужо тры тыдні, як ён ня піша.

Ich erwarte von Tag zu Tag einen Brief von ihm (іхь эрвáртэ фон та:к цу та:к áйнэн рі:ф фон і:м). — З дня на дзень я чакаю ад яго лістоў.

Er ist in der Stadt (э:р іст ін дэр штат). — Ён у горадзе.

Er ist auf dem Lande (э:р іст аўф дэм ляндэ). — Ён на вёсцы.

Wollen Sie zum Mittagessen bei uns bleiben (вóлен зі цум мітаг'эсэн бай унс бляйбэн)? — Ці Вы ня хочаце застацца у нас на полудзень?

Leider kann ich nicht bleiben (ляйдэр кан іхь ніхьт бляйбэн). — Нажаль, не магу застацца.

Ich muss weggehen (іхь мус вэ́г'г'э:эн). — Павінен адыйсьці.

# ГУМАР



*Пасьціў пастух із пастушкай,*
*Знайшлі лапаць із істужкай.*
*Ты — пастух, а я — пастушка;*
*Табе — лапаць, мне — істужка!*

**Савецкі знаўца мастацтва**

Начальнік акруговага аддзелу па справах мастацтваў таварыш С. на просьбе аб дазволе гастроляў «Трыё імя Чайкоўскага» напісаў рэзалюцыю: «Гастролі дазваляю пры няўхільнай умове, што «Трыё імя Чайкоўскага» прыедзе у складзе ня менш 10 музыкаў і за дырыгента будзе сам Чайкоўскі, бо інакш атрымаецца халтура, а я яе не дапускаю.»

**Каб ня ўкралі**

Злодзей цягне з рук жанчыны кайстрачку.
— Ты што робіш, нягоднік?..
— Спрабую спадарыня, ці моцна вы трымаеце кайстрачку... Баюся, каб яе у вас ня ўкралі.

**У рэстаране**

Першы сябра: — Зірні, як тут усё добра зроблена! Націсну кнопку, зьявіцца лёкай і я закажу полудзень.
Другі сябра: — А потым?...
Першы сябра: — Потым ты націсьнеш кнопку, зьявіцца лёкай і ты заплаціш за полудзень.

**Спачуваньне**

Спадар (жанчыне, у якой памёр муж):
— Выказваю глыбокае спачуваньне з прычыны вашае страты — яна незаменная...
Жанчына: — Няўжо я ужо гэткая старая?

→

*Баба ў дуду заіграла —*
*Стала дзеду цежалей.*
*Баба дзеду памігала —*
*Стала дзеду палягчэй.*

**За полуднем**

Разгублены прафэсар у часе полудня кажа сваёй жонцы:
— Чалавек адрозьніваецца ад зьвяроў сваёю самасьведамасьцяй. Ён ведае, што ён — чалавек, а зьвяры ня ведаюць, што яны — зьвяры. Калі, прыкладам, сьвіньня ведала-б, што яна сьвіньня — і яна была-б чалавекам.

**Савецкае жанімства**

— Люблю Ніну, і яна мяне любіць, але жаніцца не адважваюся...
— Чаму?
— Ды ведаеце, баюся уцягнуцца у гэтую справу: раз жэнішся, два жэнішся, а потым пойдзе і пойдзе...

**Адважны муж**

— Бярыце мяне, запірайце хутчэй у вязьніцу! Я кінуў у сваю жонку пантофляй!
— Ну і што?... Скалечылі яе, ці забілі?
— Не! Але яна хутка прыбяжыць сюды!..

**Я — дык магу!**

— Эй, стары! Ці ты з рэяк зьехаць ня можаш? — злосна крычыць на хурмана трамвайны машыністы.
— Я — дык магу, а паспрабуй ты! — зьняважліва адказвае хурман.

**Раз у год**

— Нашто табе мыла спатрэбілася?
— Трэба шыю памыць.
— А гэта яшчэ нашто?
— Ды, вось, чысты каўнярок трэба ускласьці.
— Ну, ну?! Для чаго-ж гэта?
— Пытаешся як дурны! Трэба-ж раз у год валасы пастрыгчы!

**З судовае пастановы**

«...Суд ня можа узяць на увагу тлумачэньня падсуднага аб тым, што у часе злачынства ён быў п'яны, бо — хоць і быў ён запраўды п'яны, але не нагэтульки, як гэтага вымагае закон...»

**Залежыць ад самой**

— Скажыце, спадар лекар, ці сьлед ад апэрацыі над каленам ня будзе вельмі бачны?
— Гэта будзе залежыць толькі ад вас самой, спадарычна!

**У лекара**

— А як вы сьпіцё? — пытаецца лекар.
— Вось так... — паказвае хворы, падклаўшы руку пад шчаку і заплюшчыўшы вочы.

**Вучыцелі — ня мужчыны**

Гімназістка апісвае сваёй сяброўцы школьную вечарынку:
«...Пасьля паказу былі танцы. Дзеля таго, што мужчынаў ня было — мы танцавалі з нашымі вучыцелямі...»

**У рэдакцыі**

Рэдактар да журналістага: «Трэба пісаць так, каб кажны дурань разумеў аб чым напісана!»
Журналісты: «А якія мейсцы у маім артыкуле вы не разумееце?»

**Жаласьлівы**

— Чаму ты плачаш, хлопчык?
— М-мамка утапі-іла кацяня-таў...
— Ай-ей, якая твая мамка нядобрая?
— Ну, так, — а абяцала, што дасьць утапіць мне.

**Аддай рукамі, а вазьмі нагамі**

— Я да вас ужо пяты раз прыходжу і пяты раз пытаюся: калі вы аддасьцё маё грошы?
— Пачакайце, — я да вас восем разоў хадзіў і прасіў, каб вы мне іх пазычылі.

**Жончын недахоп**

— Ну, як ты ла́дзіш з жонкай — добра?
— Нішто — толькі яна штодня патрабуе грошай.
— Куды-ж яна дзяе гэтулькі грошай?
— А вось і ня ведаю — дагэтуль не спрабаваў ёй даваць.

